*У адзінстве наша сіла!*



# САЛІДАРНАСЦЬ

№ 41 (356)

20-26 лістапада 2000 года

*Распаўсюджваецца бясплатна*

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА ГАРНЯКОЎ, ХІМІКАЎ, НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАЎ, ЭНЕРГЕТЫКАЎ, ТРАНСПАРТНІКАЎ, БУДАЎНІКОЎ І ІНШЫХ РАБОТНІКАЎ


*Нарады*

## Ці пачуе ўлада?

**13 лістапада ў Мінску прайшла нарада Каардынацыйнага савета арганізацый прадпрымальнікаў (КСАП), на якой прысутнічалі кіраўнікі і актывісты прафсаюзаў і грамадскіх арганізацый, што ўтвараюць гэту структуру.**

Паводле рашэння Страйкавага камітэта прадпрымальнікаў (СКП) Рэспублікі Беларусь і Беларускага прафсаюза прадпрымальнікаў (БПП) 23 лістапада адбудзецца аднадзённая агульнанацыянальная забастоўка на ўсіх рынках краіны. Вылучаны наступныя патрабаванні да ўладаў: адмяніць Пастанаўленне Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі ад 20 верасня 2000 г. № 55 "Аб мытным афармленні тавараў, якія ўвозяцца на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь з тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, што паходзяць з трэціх краін і выпушчаны ў свабоднае абарачэнне ў Расійскай Федэрацыі" ў частцы, што датычыць індывідуальных прадпрымальнікаў; унесці змены ў Дэкрэты прэзідэнта № 14 ад 04.08.97 і № 15 ад 04.09.98, каб выключыць канфіскацыю тавараў і накладанне неабгрунтавана высокіх штрафаў; не дапусціць павышэння існуючых фіксаваных ставак падаткаў для індывідуальных прадпрымальнікаў. У выпадку ігнаравання дзяржавай гэтых патрабаванняў СКП і БПП прапануюць спыніць уплату падаткаў і іншых плацяжоў у бюджэт з 1 студзеня 2001 года і аб'явіць аднамесячную агульнанацыянальную забастоўку.

Каардынацыйны савет арганізацый прадпрымальнікаў падтрымаў рашэнне СКП і БПП правесці 23 лістапада папераджальны страйк, а з 1 студзеня наступнага года – калі ўлады не выканаюць патрабаванні – аднамесячны са спыненнем плацяжоў у бюджэт і правядзеннем ва ўсіх гарадах краіны мітынгаў і іншых акцый пратэсту.

**Д. АБРАМЫЧАЎ.**

*Эканоміка*

## СТАНОВІШЧА ЎСКЛАДНЯЕЦЦА

Канцэрн «Белнафтахім» занепакоены сітуацыяй, што склалася на прадпрыемствах па вырабу мінеральных угнаенняў, якія з-за вялікай запазычанасці сельскай гаспадаркі рэспублікі за адгружаныя тукі не могуць працаваць на поўную магутнасць. Паводле звестак канцэрна, запазычанасць за ўгнаенні па стану на 1 лістапада 2000 года складае 5 607,2 мільёна рублёў, у тым ліку па ВА «Беларуськалій» — 1 791,6 мільёна рублёў, ВА «Азот» — 3 265,1 мільёна рублёў, Гомельскаму хімічнаму заводу — 550,5 мільёна рублёў.

З-за хранічнай неплацежаздольнасці сельскагаспадарчых спажыўцоў рэспублікі, дэфіцыту валютных сродкаў для разлікаў за сыравіну спынена вытворчасць фосфарных угнаенняў на Гомельскім хімзаводзе. Бо, у сваю чаргу, яго запазычанасць толькі за асноўную расійскую сыравіну для вытворчасці фосфарных угнаенняў — апатытавы канцэнтрат і серу — зараз складае каля 1 мільёна долараў ЗША.

У канцэрне паведамілі, што кіраўніцтва «Белнафтахіма» неаднаразова звяртала ўвагу кіраўнікоў аблвыканкамаў і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання на неабходнасць тэрміновых мер па пагашэнні запазычанасці для працягу выпуску і адгрузкі мінеральных угнаенняў. Аднак становішча толькі ўскладняецца.

Згодна з заданнем урада, канцэрну «Белнафтахім» прапанавана прыняць меры па вытворчасці і рэалізацыі сельскай гаспадарцы рэспублікі да 15 чэрвеня 2001 года 450 тысяч тон калійных, 273 тысяч тон азотных, 95 тысяч тон фосфарных угнаенняў.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА.**

*Алдным абзацам*

- **Апошнім часам Беларусь актыўна шукае супрацоўніцтва ў ваенна-тэхнічнай сферы з іншымі дзяржавамі. У кастрычніку Савет Міністраў ухваліў праекты адпаведных пагадненняў з Кіргізіяй і Лівіяй. Чарговымі партнёрамі рэспублікі ў гэтай галіне могуць стаць Пакістан і Лаос.**
- Распачалася планавая паездка групы лідэраў беларускай апазіцыі па сталіцах шэрагу дзяржаў Заходняй Еўропы. Яе мэта - праінфармаваць міжнародную супольнасць аб кампаніі байкоту беларускай апазіцыяй кастрычніцкіх выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі і абмеркаваць перспектывы дэмакратызацыі Беларусі ў 2001 годзе.
- **З 13 лістапада зменены інтэрвал руху электрацягнікоў Мінскага метрапалітэна. Зараз у раніншія гадзіны пік, з 7 да 9, інтэрвал прыбыцця цягнікоў будзе складаць 2 хвіліны (раней ён складаў 2,5 - 3 хвіліны). У сярэдзіне дня інтэрвал павялічыцца на 1 хвіліну і складзе 3 - 3,5 хвіліны, а ў вячэрні час - зноў скароціцца да 2,5 хвілін. Гэта дазволіць зменшыць натоўпы на станцыях, часткова разгрузіць пасажырапаток.**
- Пастановай Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі з 4 лістапада на 30 працэнтаў павялічаны тарыфы на праезд ў аўтобусах прыгарадных з міжгародніх зносін. Апрача таго, на 33 працэнты (з 30 да 40 рублёў) павялічаны збор за папярэдні продаж і (або) браніраванне кожнага білета.
- **У Беларусі значна падаражэла падпіска на газеты і часопісы на першае паўгоддзе 2001 года ў параўнанні з другім паўгоддзем гэтага года. Беларускія газеты і часопісы падаражэлі на 30-80 працэнтаў. Расійскія выданні - у 2 і болей разоў. Падпіска на газеты і часопісы далёкага замежжа абыйдзецца беларускім грамадзянам у 3-5 разоў даражэй, чым жыхарам краін, дзе яны выдаюцца.**
- Салігорскаму дзіцячаму дому перададзена гуманітарная дапамога (прадукты харчавання, медыкаменты і сродкі гігіены) на суму больш чым 10 тысяч французскіх франкаў, дзякуючы намаганням беларускага грамадскага аб'яднання "Міжнародны фонд "Клопат аб дзецях", французскай дабрачыннай арганізацыі "Салідарная міжнародная дапамога" з горада Салон дэ Праванс, Міністэрству юстыцыі Беларусі, якое ўжо на працягу пяці гадоў шэфствуе над Салігорскім дзіцячым домам.
- **56 працэнтаў мінчан лічаць, што палітычныя праблемы павінны вырашацца шляхам дыялога. Больш схільнымі да мірнага вырашэння палітычных канфліктаў, на думку супрацоўнікаў Мінскага навукова-даследчага інстытута, аказаліся жанчыны, навучэнцы і студэнты, прадпрымальнікі.**
- 8000 беларусаў могуць разлічваць на грашовую кампенсацыю за прымусовую працу на тэрыторыі Аўстрыі ў час Другой сусветнай вайны. Кожны пацярпелы, хто працаваў на заводах, атрымае прыблізна каля 2420 долараў ЗША, а тыя, хто быў заняты ў сельскай гаспадарцы - па 1380 долараў.
- **За дзевяць месяцаў бягучага года ў Беларусі здарылася 1869 дарожна-транспартных здарэнняў.**
- 40 000 тонаў дызельнага паліва і яшчэ 10 000 тонаў аўтамабільнага бензіна неабходна тэрмінова знайсці Мінсельгасхарчу сумесна з канцэрнам "Белнафтахім", каб завяршыць уборку ўраджая-2000.
- **На Віцебшчыне і Брэстчыне распаўсюджваецца шаленства сярод дзікіх жывёл. У шэрагу выпадкаў прышлося прыбегнуць да вакцынацыі людзей.**
- У Гродзенскай вобласці шырыцца вірусны гепатыт. Выяўлена ўжо 842 хворых, 420 з іх - дзеці.
- **У Беларусі прадугледжваецца скарачэнне 80-тысячнай арміі. Затсануцца самыя падрыхтаваныя мабільныя воінскія злучэнні і часткі.**
- Што тычыцца прызыва ў армію, дык у гэтым сезоне ён пройдзе пазней: адпраўка навабранцаў намечана на 8-26 студзеня 2001 года, а 28 студзеня салдаты прымуць прысягу. Па папярэдніх дадзеных, плануецца прызваць на воінскую службу 18 тысяч грамадзян, у тым ліку 13 тысяч - непасрэдна ў армію.

*Грамадства*

## Выказалі непагадненне

Прадстаўнікі шэрагу беларускіх грамадскіх арганізацый выказалі нязгоду з тэзісамі даклада, падрыхтаванага Навуковым камітэтам ААН па ўздзеянні атамнай радыяцыі (UNSCEAR). Сваё меркаванне яны выказалі ў звароце, накіраваным у штаб-кватэру Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку.

На думку аўтараў звароту, даклад не адлюстроўвае маштаб трагедыі і абмяжоўвае яе медыцынскія наступствы толькі ростам захворвання на рак шчытападобнай залозы ў дзяцей, у той час як здароўю насельніцтва нанесены значна большы ўрон. Напрыклад, узровень захворвання на злаякасныя пухліны ў Беларусі за апошнія гады ўзрос больш чым на 25 працэнтаў, у сотні разоў павялічылася колькасць дзяцей, якія пакутуюць на анемію, алергію, на захворванні органаў дыхання і слыху. У будучыя дзесяцігоддзі, паводле прагнозаў вучоных, штогод чакаецца каля 150 выпадкаў дзіцячай лейкеміі. Пасля 1986 года частата прыроджаных парокаў у дзяцей, якія нарадзіліся ў адносна чыстых раёнах, павялічылася ў 1,2 раза, а ў забруджаных — у 1,8 раза. Рост захворванняў, у тым ліку — паталогіі цяжарнасці — прывялі да скарачэння насельніцтва Беларусі.

Грамадскія аб'яднанні краіны (беларуска-германскае дабрачыннае прадпрыемства «Надзея — XXI-е стагоддзе», «Беларускі камітэт «Дзеці Чарнобыля», Беларускі фонд міру і іншыя) лічаць, што прынята даклада, які не ўлічвае меркаванні беларускіх і ўкраінскіх вучоных, пазбаўляе многіх хворых дзяцей і дарослых шанцаў на выздараўленне. Апрача таго, лічаць аўтары звароту, нематываванае грэбаванне вопытам Беларусі прывядзе да глабальнага зніжэння ўзроўню бяспекі на існуючых і праектуемых ядзерных установках, што тоіць у сабе верагоднасць яшчэ больш маштабнай трагедыі.

**Паводле БелаПАН.**

*Заседания*

## Состоится Совет представителей

***14-15 декабря в г. Солигорске состоится очередное заседание Совета представителей Белорусского Независимого профсоюза.***

**Проект повестки дня:**

1. Информация о выполнении решений предыдущего Совета представителей БНП.
2. О Конгрессе демократических профсоюзов.
3. О ситуации в международном профсоюзном движении.
4. Разное.

**26 лістапада 2000 года ў г. Слуцку, на стадыёне, з 10.30 да 11.30 АДБУДЗЕЦЦА САНКЦЫЯНАВАНЫ МІТЫНГ у гонар 80-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну.**

*Фестывалі*

## БАЖ - баявы саюз Еўропы

17-18 лістапада гэтага года ў Мінску адбыўся 1-ы Рэспубліканскі Фестываль незалежнай прэсы, які быў арганізаваны грамадскім аб'яднаннем "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (БАЖ). У ім прынялі ўдзел каля 50 рэдакцый недзяржаўных выданняў з Мінска і рэгіёнаў краіны. Гасцямі фестываля былі прадстаўнікі Літоўскага саюза журналістаў і Фонда абароны галоснасці з Масквы. Паводле іх слоў, у Міжнароднай федэрацыі журналістаў лічаць БАЖ самым баявым саюзам Еўропы.

На фестывалі былі адзначаны лепшыя рэдакцыі ганаровымі дыпломамі і прызамі.

Дзесяць рэдакцыйных калектываў былі ўзнагароджаны дыпломамі "За адданасць прафесіі", сярод якіх і калектыў рэдакцыі газеты "Салідарнасць".

*Міжнародныя стасункі*

## ЗАЯВІЛІ АБ НЕДЭМАКРАТЫЧНАСЦІ

Сенатам ЗША прынята рэзалюцыя № 153 ад 25 кастрычніка 2000 года па выніках парламенцкіх выбараў у Беларусі.

У дакуменце гаворыцца аб недэмакратычнасці прайшоўшых у Беларусі парламенцкіх выбараў. Акрамя таго, сенатары заяўляюць аб прызнанні Вярхоўнага Савета 13-га склікання адзіным легітымным заканадаўчым органам Беларусі.

**УТВЕРЖДЕНО**

**Постановление Совета Министров Республики Беларусь 23.10.2000 № 1630**

# ПОРЯДОК

## осуществления профсоюзами общественного контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде

1. Настоящий Порядок разработан в соответствии с Трудовым кодексом Республики Беларусь, Законом Республики Беларусь от 22 апреля 1992 г. "О профессиональных союзах" в редакции Закона Республики Беларусь от 14 января 2000 г. и иными актами законодательства, регулирующими трудовые и связанные с ними отношения.

2. Общественный контроль за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде осуществляется на принципах социального партнерства между профсоюзами, нанимателями и органами государственного управления.

3. Общественный контроль за соблюдением нанимателем, собственником или уполномоченным им органом управления законодательства Республики Беларусь о труде осуществляют профсоюзы через их технические и правовые инспекции труда, общественных инспекторов по охране труда, уполномоченных представителей профсоюза (далее - представитель профсоюза).

Полномочия представителя профсоюза на осуществление общественного контроля за соблюдением законодательства о труде регламентируются настоящим Порядком, подтверждаются документом, оформленным и выданным соответствующим профсоюзом, либо удостоверением территориального или отраслевого выборного органа профсоюза.

4. Представители профсоюзов при осуществлении общественного контроля за соблюдением нанимателем, собственником или уполномоченным им органом управления законодательства Республики Беларусь о труде имеют право:

4.1. осуществлять проверки соблюдения законодательства Республики Беларусь о труде по вопросам заключения, изменения и прекращения трудового договора (контракта), рабочего времени и времени отдыха, оплаты труда, гарантий и компенсаций, льгот и преимуществ, охраны труда, выполнения коллективных договоров, соглашений, прав профсоюзов, а также по другим вопросам социально-трудовой сферы в организациях, в которых работают члены данного профсоюза;

4.2. с ведома руководства организаций при наличии оформления в установленном порядке полномочий соответствующего профсоюзного органа посещать организации любых организационно-правовых форм, в которых работают члены этого профсоюза, для проведения проверок;

4.3. запрашивать и получать от уполномоченных должностных лиц нанимателя, органов государственного управления информацию, сведения о несчастных случаях на производстве и профессиональных заболеваниях, документы, локальные нормативные акты;

4.4. осматривать рабочие места, проводить независимую экспертизу обеспечения здоровых и безопасных условий труда;

4.5. принимать участие в расследовании несчастных случаев на производстве и профессиональных заболеваний;

4.6. принимать участие в работе комиссий по испытаниям и приемке в эксплуатацию, экспертизе безопасности условий труда проектируемых, строящихся и эксплуатируемых производственных объектов, а также проектируемых и эксплуатируемых механизмов и инструментов в целях определения соответствия их требованиям норм и правил по охране труда, в проведении аттестации рабочих мест по условиям труда;

4.7. заслушивать на заседаниях выборных профсоюзных органов полученные от нанимателей информацию и сообщения, относящиеся к предмету общественного контроля;

4.8. требовать от нанимателя немедленного устранения нарушений по охране труда, угрожающих жизни и здоровью работников, а в случаях непосредственной угрозы их жизни и здоровью приостановления работ до принятия решения соответствующими органами государственного управления;

4.9. выдавать представления об устранении выявленных нарушений законодательства Республики Беларусь о труде;

4.10. обращаться в органы государственного надзора и контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде для принятия необходимых мер по выявленным профсоюзом нарушениям;

4.11. подавать в суд по просьбе своих членов исковые заявления в защиту их трудовых и социально-экономических прав;

4.12. вносить в установленном порядке в органы государственного управления предложения о принятии, изменении или отмене актов законодательства по трудовым и социально-экономическим вопросам;

4.13. рассматривать направляемые органами государственного управления в целях предварительного уведомления нормативные правовые акты, затрагивающие трудовые и социально-экономические права граждан (за исключением нормативных правовых актов, содержащих государственные секреты);

4.14. участвовать в разработке государственных программ по вопросам охраны труда, а также нормативных правовых актов, регламентирующих вопросы охраны труда, профилактики профессиональных заболеваний;

4.15. на другие действия, предусмотренные законодательством, коллективными договорами (соглашениями).

5. Наниматель предоставляет представителям профсоюзов, действующим в организации, в пользование необходимые для осуществления общественного контроля оборудование, помещения, транспортные средства и средства связи в соответствии с договором (соглашением). При проведении проверок на производстве с вредными и (или) опасными условиями труда, на работах, связанных с загрязнением или выполняемых в неблагоприятных температурных условиях, нанимателем выдается представителям профсоюза специальная одежда, специальная обувь и другие средства индивидуальной защиты.

6. В случае выявления в ходе проверки нарушений законодательства о труде представители профсоюза вправе требовать устранения выявленных нарушений, указанных в представлении, прилагаемом к настоящему Порядку, которое вручается нанимателю, собственнику или уполномоченному им органу управления и обязательно для исполнения ими. При необходимости представление направляется в органы государственного надзора и контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде.

В случае несоответствия трудового договора (контракта) законодательству Республики Беларусь, коллективному договору, соглашениям представители профсоюзов вправе требовать от нанимателя в интересах работника - члена профсоюза изменений условий трудового договора (контракта).

Профсоюзы вправе также ходатайствовать перед соответствующими органами о привлечении к ответственности лиц, виновных в нарушении законодательства Республики Беларусь о труде.

7. Наниматель, собственник или уполномоченный им орган управления обязаны рассмотреть представление представителя профсоюза об устранении нарушений законодательства Республики Беларусь о труде и в месячный срок со дня его получения письменно уведомить профсоюз о результатах этого рассмотрения.

Представление о допущенных нарушениях законодательства Республики Беларусь о труде при прекращении трудового договора с работником - членом профсоюза должно быть рассмотрено нанимателем в 5-дневный срок со дня его получения.

8. При осуществлении общественного контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде профсоюзы взаимодействуют с органами государственного надзора и контроля за соблюдением законодательства о труде.

Координация деятельности органов государственного надзора и контроля и общественного контроля по вопросам соблюдения законодательства Республики Беларусь о труде осуществляется соответствующим республиканским органом государственного управления.

Органы государственного надзора и контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде при необходимости извещают профсоюз, действующий у нанимателя, о проведении плановой проверки соблюдения законодательства Республики Беларусь о труде не позднее чем за 7 дней до ее начала.

Представители профсоюза при участии в проверках, проводимых органами государственного надзора и контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде, вправе излагать свое мнение в составляемых при этом документах.

9. Коллективными договорами, соглашениями могут устанавливаться дополнительные (не ущемляющие права профсоюзов) условия осуществления общественного контроля за соблюдением законодательства Республики Беларусь о труде, а также льготы для представителей профсоюза, выполняющих эту работу.

10. За нарушение требований настоящего Порядка виновные уполномоченные должностные лица нанимателя несут ответственность в соответствии с законодательством.

*Суды*

# Канстытуцыйны суд прапанаваў...

**Канстытуцыйны суд (КС) Рэспублікі Беларусь прапаноўвае Нацыянальнаму сходу ўнесці ў Крымінальна-працэсуальны кодэкс (КПК) Беларусі змяненні, датычныя права на амністыю асуджаных, у дачыненні якіх прыгаворы не ўступілі ў законную сілу ў сувязі з касацыйным абскарджаннем.**

Справа ў тым, што ў адпаведнасці з законам аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы, асуджаным да пазбаўлення волі, тэрмін пакарання скарачаецца на 1 год, а асуджаным, у якіх да заканчэння тэрміну пакарання застаецца менш за адзін год, тэрмін скарачаецца на астатнюю частку. Аднак амністыя прымяняецца толькі ў тым выпадку, калі прыгаворы ў дачыненні іх уступілі ў законную сілу на дзень уступлення ў сілу Закона аб амністыі.

Разам з тым звароты асуджаных у КС і вывучэнне практыкі паказала, што ў шэрагу выпадкаў пададзеныя асуджанымі ва ўстаноўленыя тэрміны касацыйныя скаргі не разглядаюцца на працягу доўгага часу толькі таму, што крымінальныя справы не накіроўваліся судамі першай інстанцыі ў суд касацыйнай інстанцыі. Гэта адбывалася па розных прычынах. Адной з іх, як устанавіў КС, з'яўляецца адсутнасць у крымінальна-працэсуальным заканадаўстве тэрмінаў, на працягу якіх суд першай інстанцыі абавязаны разгледзець заўвагі на пратакол судовага пасяджэння, а таксама тэрмінаў, у межах якіх суд першай інстанцыі павінен накіраваць крымінальную справу ў суд касацыйнай інстанцыі.

У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд прапаноўвае парламенту вырашыць дадзеную праблему шляхам унясення ў КПК, які ўводзіцца ў дзеянне з 1 студзеня 2001 года, змяненняў і дапаўненняў, якія ўстанаўліваюць такія тэрміны. КС таксама прапаноўвае знайсці справядлівае рашэнне па прымяненні амністыі да асуджаных, прыгаворы ў дачыненні якіх не ўступілі ў сілу на дзень уступлення ў сілу Закона аб амністыі, па не залежачых ад іх абставінах. Вырашэнне гэтага пытання, лічыць КС, магчымае, у прыватнасці, шляхам дачы афіцыйнага тлумачэння законаў аб амністыі.

**Наталля КУЛАГІНА.**

*Крызіс*

# Заводскія праблемы як вынік дзяржаўнай палітыкі?

**Хваляванні рабочых назіраюцца на адным з найбуйнейшых прадпрыемстваў беларускай сталіцы — Мінскім маторным заводзе (ММЗ). Удзень 16 лістапада каля будынка заводаўпраўлення адбыўся стыхійны мітынг: рабочыя патрабавалі нармальнай аплаты сваёй працы.**

Як паведаміў БелаПАН старшыня заводскай пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза металістаў (СПМ) Валерый Захарчанка, нядаўна кіраўніцтва прадпрыемства, са спасылкай на новы Працоўны кодэкс, выдала загад, які змяняе графік выдачы заработнай платы. Згодна з гэтым загадам, выплата грошай павінна рабіцца двойчы на месяц — 10-га і 25-га. Аднак графік выплат адміністрацыяй парушаецца, а сумы авансу проста смешныя — каля 3 тысяч рублёў (для параўнання: 3 тысячы 600 рублёў складае цяпер у Беларусі мінімальна зарплата).

Удзельнікі ўчарашняй акцыі запатрабавалі ад кіраўніцтва завода тлумачэнняў і прапанавалі склікаць на наступны дзень канферэнцыю працоўнага калектыва з абмеркаваннем фінансава-эканамічнага стану прадпрыемства. Выйшаўшы да рабочых генеральны дырэктар ММЗ Мікалай Лобач заявіў аб цяжкай сітуацыі на заводзе. Тым не менш, паводзіны рабочых, здаецца, напужалі заводскую адміністрацыю. Ужо 17 лістапада ім сталі выплачваць грошы, праўда, зноў невялікімі сумамі — па 5 тысяч рублёў.

Дзве дзеючыя на заводзе прафсаюзныя «пярвічкі» — Свабоднага прафсаюза металістаў і Беларускага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання — дамовіліся аб правядзенні 22 лістапада сумеснага пасяджэння, на якім, з улікам бягучай сітуацыі, будзе вырашацца пытанне аб скліканні канферэнцыі працоўнага калектыва.

Сёння на Мінскім маторным заводзе працуюць 6 тысяч чалавек. У кастрычніку сярэдняя заработная плата на гэтым прадпрыемстве склала 116 тысяч рублёў. Як сказаў Валерый Захарчанка, на заводзе трэба шукаць прычыну «толькі 20 працэнтаў усіх бед, астатнія 80 — па-за ім». Іншымі словамі, заводскія праблемы з'яўляюцца вынікам неразумнай эканамічнай палітыкі дзяржавы.

Трэба нагадаць, што 15 лістапада рабочыя ММЗ разам з прадстаўнікамі трактарнага завода планавалі правесці шэсце і мітынг супраць збяднення працоўных. Аднак Мінгарвыканкам забараніў акцыю, растлумачыўшы сваё рашэнне адсутнасцю прычын для яе правядзення.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

*Палітыка*

# САЮЗЫ Ў САЮЗЕ — БЕСПЕРСПЕКТЫЎНА

Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма не бачыць перспектыў развіцця СНД. Як перадае агенцтва УНІАН, пра гэта ён заявіў 17 лістапада на сустрэчы са студэнтамі Інстытута міжнародных адносін Кіеўскага нацыянальнага універсітэта імя Тараса Шаўчэнкі.

«Калі ўнутры СНД ствараецца столькі саюзаў, што чорт галаву зломіць, і калі ў самім саюзе ёсць іншыя саюзы, то якія могуць быць перспектывы?» — сказаў Леанід Кучма. Ён звярнуўся да аўдыторыі з рытарычным пытаннем «ці ёсць у Еўрапейскім саюзе іншыя саюзы?» і сам жа на яго адказаў — «не».

**УНІАН — БелаПАН.**

# КУРСЫ ВАЛЮТ

На 21 лістапада Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:

Долар ЗША - 1.090 беларускіх рублёў

Еўра - 924,92

Нямецкая марка - 472,90

Расійскі рубель - 39,17

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску долар ЗША куплялі па 1.125-1.135 і прадавалі па 1.140-1.145 рублёў. У параўнанні з папярэднім днём курс узрос у сярэднім на 15 рублёў.

**Многие тревожащие тебя проблемы могли бы успешно разрешиться, если бы ты был в нашем профсоюзе!**

**Приходи!** 223710, г.Солигорск, ул.Ленина,42. Тел./факс(01710)2-00-59. E-mail: sol_sn@inbox.ru
*Не жди! Иди с нами!* **Вступай в БНП! В единстве наша сила!**

*Охрана здоровья*

# Вреден ли компьютер?

Телефоны, связь, компьютеры... Без них, конечно, не обойтись. Но кроме проводов, у них свое поле или аура, которая создается вокруг каждого компьютера, телевизора и им подобных вещей. Каково там человеку?

В Германии работа оператора видеодисплейных терминалов входит в число 40 наиболее вредных и опасных профессий.

Тем не менее специалисты считают, что вредные воздействия можно практически свести на нет. Рентгеновское излучение у современных компьютеров дозиметры не определяют, ультрафиолетовое - меньше, чем от солнечного света.

Но стоит обратить внимание на электромагнитные и электростатические поля, которые и создают компьютеры. Влияние их на здоровье человека пока недостаточно изучено, поэтому и вызывает опасения. Но уже сейчас специалисты уверены, что от этих излучений можно защититься.

При пользовании компьютером нужно уделять внимание на **быстроту утомления,** которая зависит от характера и качества изображения на экране - яркость, мелькание, внешнее освещение. Естественное освещение должно быть слева от компьютера. Желательно избегать бликов от дополнительных источников света.

**Излучение** идет не только со стороны экрана, но и с боковых, и с задних поверхностей. Поэтому лучше, чтобы компьютер тылом был расположен к стене. Если это по каким-либо причинам невозможно, то расстояние между тылом одной машины и экраном другой должно быть не менее 2 метров; между боковыми поверхностями - не менее 1,2м. **Электромагнитные поля** быстро убывают с увеличением расстояния от источника излучения. В 10 см от экрана компьютера поле в 5-10 раз выше, чем на расстоянии, где обычно сидит человек. Рабочие места должны быть разделены перегородкой высотой 1,5-2 метра. Площадь на одно рабочее должна составлять не менее 6 кв.м.

**Электростатические поля** также не показаны человеку. Под их воздействием пыль и заряженные частицы из воздуха оседают на лице, руках, вызывая аллергию, а иногда и различные экземы, сухость кожи, раздражения. Чтобы этого избежать, компьютер должен быть заземлен. Защитный экран должен ослаблять не только переменные электромагнитные излучения, но и электростатику (что указывается в гигиеническом сертификате).

Компьютер можно сделать безопасным с точки зрения магнитных и электростатических полей, но если человек сидит за ним скрючившись и не отрываясь, часами смотрит на экран, не делая гимнастику для спины, глаз и т.д., он в скором времени обязательно заработает искривление позвоночника и близорукость.

В среднем через каждые 2 часа нужно делать 10-15 минутные перерывы.

Беременные и кормящие женщины к работе с компьютером не допускаются.

**(По материалам печати).**



# Поздравляем!

**Александру Алексеевичу СУГАКОВУ,**
***работнику ПТО ст. Калий-3***

**Уважаемый Александр Алексеевич!**
**Поздравляем Вас с днем рождения!**
Годы пусть не будут Вам помехой,
Даже если это сотня лет.
Мы во всем желаем Вам успехов,
Радости, здоровья и побед.

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза железнодорожников ПТО ст. Калий-3.**

**Антонине Николаевне ЕРМАКОВИЧ,**
***работнице ЗАО "Калинка"***

**Уважаемая Антонина Николаевна!**
**Поздравляем Вас с днем рождения!**
Желаем Вам, чтоб горе сплыло,
Чтоб жизнь висков не серебрила,
Печаль не трогала лица,
Чтоб сердце вечно юным было
И счастью не было конца.
Крепкого Вам здоровья, успехов в производственной деятельности!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза работников ЗАО "Калинка".**

*Любопытно*

## ПРЕСТАРЕЛЫЕ МНОГОЖЕНЦЫ

В аравийском государстве Бахрейн каждый шестой мужчина - многоженец.

Вместе с тем только один из 500 бахрейнцев отваживается жить по максимуму, разрешенному шариатом - иметь одновременно четырех жен. Дело в том, разъясняет газета «АиФ. Семейный совет», что у многоженцев есть не только права, но и обязанности. Одна из них - обеспечить всем женам равные материальные условия. А другая еще более суровая: ни одну из своих жен правоверный не должен обходить лаской и мужским вниманием дольше трех дней. Аравийские мужчины входят во вкус любовных утех с возрастом и начинают пополнять свои дома новыми женами обычно только на четвертом десятке.

*Осторожно!*

## «МЕДНОЕ» ТУРЕЦКОЕ ЗОЛОТО

О том, чем турецкие золотые изделия, наводнившей наш рынок, отличаются от российских, объясняют специалисты в газете «АиФ на Енисее». Как правило, российские украшения, изготовляют из золота 585-й пробы. Это значит, что в сплаве присутствует 58,5% золота, остальное - добавки (серебро, медь и др.). Поступающее официальным путем на российский рынок турецкое золото, как правило, от мировых стандартов не отличается. Другое дело, если украшения приобретаются на турецких рынках или в местных лавках. Даже если на изделии будет выбита высокая проба, золота в нем может быть пшик. Есть данные, что предприимчивые турецкие ювелиры, готовясь к встрече наивных туристов, добавляют в золотой сплав большое количество меди. Именно благодаря медным добавкам псевдозолотые изделия приобретают красивый красноватый оттенок и приятно поражают своей дешевизной. Украшения из «медного» золота крайне непрочные: они быстро рассыпаются и восстановлению не подлежат.

*Тонко подмечено*

## РОДИНКИ. К чему?

Склонности и предрасположенности человека можно определить по родинкам на его теле. Родинки на лице говорят о сильной воле, на шее - к деньгам. Жаль только - не определить, в каком возрасте эти самые деньги появятся. Обильные родинки на руках свидетельствуют о скандальности человека. Родинки на груди - вы просто созданы для тихой домашней жизни, поддержания уюта в доме и воспитания детей. И даже если у вас нет склонности к воспитанию детей, вам придется ими заняться, если у вас родинки находятся на талии. Ведь это говорит о многочисленном потомстве. Впрочем, при высоком уровне современной медицины и фармакологии вы вполне можете поспорить с природой. Ну а тем, кто имеет родинки на коленях, обещана неплохая карьера.

## Просто анекдот

*Супруги осыпают друг друга отборными фразами. К ним в дом стучится соседский мальчик.*
*- Что тебе?*
*- Мама просила узнать, на какой волне транслируют такую интересную передачу?*

☺ ☺ ☹

*Муж обращается к жене:*
*- Дорогая, пришей мне пуговицу на рубашке.*
*- А какую именно, здесь трех не хватает?*

☺ ☺ ☹

*Встречаются два охотника.*
*- Ну как?*
*- Да вот, ежей настрелял.*
*- ???*
*- Жене на воротник, теще на стельки.*

☺ ☺ ☹

*- Кто такой Чапаев? - спрашивает Вовочку учительница истории.*
*- Как кто? Негр!*
*- Как негр?!*
*- А он же против белых воевал, вы сами рассказывали...*





## Гурманам на заметку

### ТОМАТЫ С ГРОЗДЬЯМИ РЯБИНЫ

***Томаты - 2 кг, рябина (гроздья) - 0,5 кг, вода - 1 л, сахар - 100 г, соль - 30 г, яблочный уксус - 50 г.***

Томаты вымыть, наколоть вилкой со стороны плодоножки, уложить в банки вместе с промытыми гроздьями рябины. Развести в воде сахар, соль и уксус, кипящим раствором провести трехкратную заливку. Банку закатать.

### ТОПИНАМБУР, МАРИНОВАННЫЙ С МОРКОВЬЮ

Топинамбур и морковь вымыть, очистить от кожуры, нарезать ломтиками, уложить в стерильные банки, залить маринадом, накрыть крышкой и поставить на пастеризацию. Закатать.

***Маринад: на 1 л воды: соль - 50 г, уксус яблочный - 50 г, мед - 2 ст. ложки.***



**Члены Независимого профсоюза Центральной лаборатории ПО «Беларуськалий» глубоко скорбят по поводу безвременной смерти работника ЦЛ РУСКЕВИЧА Сергея Александровича и выражают искреннее соболезнование семье и близким покойного.**


**Салідарнасць** Рэгістрацыйны №687 Газета заснавана ў 1991г. **Іванам Юргевічам**

**Заснавальнік** — Беларускі Незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў

**Рэдакцыйная калегія:** Бабаед В.С., Юргевіч І.В., Галубіна Н.Я., Новік С.М., Мікалайчанка А.С., Абрамычаў Д.Я.

**Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць прыводзімых фактаў, цытат і іншай інфармацыі. Рэдкалегія можа друкаваць матэрыялы, не абавязкова падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рэдактар **Віталь Мурылёў**
**Адрас рэдакцыі:** 223710,г.Салігорск,вул.Леніна, 42, БНП. Тэл.: (01710) 2-06-22, тэл./факс: (01710) 2-00-59
E-mail: sol_sn@inbox.ru
Падпісана ў друк 23.11.2000 года ў 8.00
Газета аддрукавана ў друкарні г.Слуцка, 223610 г.Слуцк, вул. Багдановіча, 7 Заказ 4545
Тыраж **8.000**